*Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка*

**№26 чэрвень 2013**

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

*Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь*

**У Шчучынскім раёне мясцовая міліцыя ўзбудзіла крымінальную справу ў дачыненні да жахара вёскі Аляксандраўка, каталіцкага верніка Аляксея Шчадрова, які арганізаваў у вёсцы прытулак для бяздомных.**




*Яго абвінавачваюць паводле арт. 193.1 Крымінальнага кодэксу ў тым, што ён "арганізаваў дзейнасць ... незарэгістраванай рэлігійнай арганізацыі і забяспечыў умовы яе функцыянавання без рэгістрацыі ва ўсталяваным заканадаўствам парадку". Аляксея Шчадрова вінавацяць у тым, што ён "аб'ядноўвае ва ўстойлівую групу адзінаверцаў з ліку мясцовых жыхароў, а таксама асобаў бяз вызначанага месца жыхарства", абсталяваў пакой "для адпраўлення рэлігійнага культу і задавальнення іншых рэлігійных патрэбаў". На падставе гэтага верніка хочуць прыцягнуць да крымінальнай адказнасці.*

*Па словах Аляксея Шчадрова, ён не ствараў ніякай рэлігійнай арганізацыі, а толькі прытулак для бяздомных, якіх дзяржава не хоча заўважаць, займаўся дабрачыннай дзейнасцю з міласэрдзя да бліжняга.*

# У Беларусі новая "палітычная" крымінальная справа па артыкуле 193.1




У Шчучынскім раёне распачатая крымінальная справа паводле артыкулу 193.1 Крымінальнага кодэксу – дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Вінавацяць жыхара вёскі Аляксандраўка (што ў Васілішкаўскім сельскім савеце) каталіцкага верніка Аляксея Шчадрова, які арганізаваў у вёсцы прытулак для бяздомных. Паводле пастановы начальніка ААПП Шчучынскага РАУС маёра міліцыі Сяргея Асовіка, які разглядаў матэрыялы праверкі, Аляксей Шчадроў "арганізаваў дзейнасць ... незарэгістраванай рэлігійнай арганізацыі і забяспечыў умовы яе функцыянавання без рэгістрацыі ва ўсталяваным заканадаўствам парадку".

Намеснік старшыні Праваабарончага цэнтру "Вясна" Валянцін Стэфановіч адзначае, што ў 2011 годзе выйшла Заключэнне Венецыянскай камісіі адносна артыкулу 193-1 Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь. У Заключэнні, у прыватнасці, гаворыцца, што артыкул 193-1 парушае Міжнародны пакт аб палітычных і грамадзянскіх правах і з'яўляецца патэнцыйным інструментам для дзяржавы ў стрымліванні грамадскіх актывістаў, дае ўладам шырокія паўнамоцтвы ўмешвацца ў фундаментальнае права на свабоду асацыяцый, свабоду думкі, перакананняў і іх выражэння.

# Слонім: доктара Івана Шэгу звольнілі з працы




Доктара-траўматолага, спецыяліста вышэйшай катэгорыі Івана Шэгу звольнілі з працы. Доктара выклікалі ў адміністрацыю бальніцы, разлічылі, аддалі працоўную кніжку і сказалі, што ён ужо ў райбальніцы не працуе. Іван Шэга пакінуў медыцынскую ўстанову, якой аддаў больш за 30 гадоў. На пытанне, чым цяпер ён будзе займацца, доктар і грамадскі актывіст на Слонімшчыне Іван Шэга адказаў, што "некалькі дзён адпачну, усё абдумаю, а потым, калі не медыцынай, дык грамадскай дзейнасцю займацца буду".

Нагадаем, што доктару Слонімскай цэнтральнай раённай бальніцы Івану Шэгу сёлета споўнілася 60 гадоў, 30 гадоў з якіх ён адпрацаваў у Слонімскай раённай бальніцы. Доктар вопытны, спецыяліст вышэйшай катэгорыі, якога ведаюць як добрага спецыяліста ўсе жыхары Слонімшчыны і нават суседніх раёнаў, ён поўны сіл і энергіі працаваць і надалей. І гэта ведае і галоўны ўрач Слонімскай ЦРБ Юрый Пяцельскі. 24 красавіка за подпісам Пяцельскага Іван Іванавіч Шэга атрымаў афіцыйнае пісьмо: "Адміністрацыя УА "Слонімская ЦБР паведамляе, што з Вамі будзе працягнуты кантракт тэрмінам на адзін год з 28 чэрвеня 2013 года да 27 чэрвеня 2014 года". Вядома ж, свой мясцовы доктар, як такога можна выганяць, калі ён добры спецыяліст, а ў Слонімскай ЦРБ сёння не хапае дзесятка дактароў. І раптам, 21 мая Іван Шэга атрымлівае ад таго ж Пяцельскага новае пісьмо, дзе галоўны ўрач папярэджвае: "Адміністрацыя Слонімскай ЦРБ паведамляе, што 27 чэрвеня Вы будзеце звольнены ў сувязі з канчэннем тэрміну кантракта, п.2 арт.35 Працоўнага кодэксу Рэспублікі Беларусь".

# Алеся Бяляцкага намінавалі на прэмію Вацлава Гавэла ў галіне абароны правоў чалавека



Больш за 30 няўрадавых арганізацыяў Польшчы вылучылі Алеся Бяляцкага на прэмію Вацлава Гавэла ў галіне абароны правоў чалавека. З такой ініцыятывай выступіў польскі фонд Стэфана Баторыя.

Узнагарода Вацлава Гавэла ў галіне абароны правоў чалавека прысуджаецца адзін раз на год Парламенцкай асамблеяй Рады Еўропы (ПАРЕ) у супрацы з Бібліятэкаю Вацлава Гавэла і фондам «Charta 77». Прэмія мае падкрэсліць выключную дзейнасць дзеячаў грамадзянскай супольнасці, якія працуюць у сферы абароны правоў чалавека ў Еўропе і за яе межамі.

Упершыню абвесцілі пра прэмію сёлета 25 сакавіка ў Празе падчас цырымоніі падпісання дакументаў аб супрацы паміж прэзідэнтам ПАРЕ Жанам-Клёдам Міннёнам (Jean-Claude Mignon), дырэктаркаю Бібліятэкі Вацлава Гавэла Мартаю Смолікавай (Marta Smolikova) і старшынём кіроўнага камітэту фонду «Charta 77» Францішкам Янохам (Frantisek Janocha). На цырымоніі прысутнічаў таксама міністр замежных справаў Чэхіі Карэл Шварцэнбэрг (Karel Schwarzenberg).

Прэмія Вацлава Гавэла ў галіне абароны правоў чалавека замяніла створаную ў 2007 годзе ўзнагароду за намаганні ў прасоўванні правоў чалавека, якая прысуджалася Парламенцкай асамблеяй Рады Еўропы кожныя два гады: у 2009 годзе ёй уганаравалі брытанскую арганізацыю «Human Rights Watch», а ў 2011

# Праўда – гэта дыскрэдытацыя?

***Зусім нядаўна мяне выклікалі ў гарадзенскае ўпраўленне КГБ. Размова ішла пра маю публіцыстычную дзейнасць, а канкрэтна – якраз пра артыкулы вашага пакорлівага слугі і сціплага руплiўца клавіятуры (раней казалі – пяра) у беластоцкай газеце "Ніва". Спярша мяне агарнула прафесійная гордасць – значыць нешта вартае пішу, калі маю такіх пільных і уважлівых "чытачоў". Потым, схамянуўшыся, я прызямліў свой новы сумнеўны гонар – кім жа ім яшчэ займацца, калі на ўвесь трохсоттысячны горад над Нёманам засталося толькі чатыры публіцысты – два беларускія і два польскія, адзін з якіх ужо прыцягваўся да крымінальнай адказнасці і сядзеў у турме, а іншыя пераследаваліся пакуль у больш мяккіх формах. Гэта раней ў Гародні былі газеты "Пагоня" і "Биржа информации", незалежнае радыё...***

У "высокім" ведамстве мне сказалі, што многія мае артыкулы могуць падпадаць пад крымінальны артыкул аб дыскрэдытацыі Рэспублікі Беларусь. Але калі журналіст піша пра тое, што затрыманага і нявіннага чалавека збіваюць міліцыянты ў пастарунку – то гэта дыскрэдытацыя дзяржавы? Дык хто яе дыскрэдытуе? Правядзіце расследаванне па гарачых слядах, зрабіце праверку па такім сігнале. Калі журналіст піша, што ў Гародні кепска ходзіць грамадскі транспарт – то гэта дыскрэдытацыя дзяржавы? То вылезьце з службовых аўто – і дзень-два паездзіце нашымі маршрутнымі аўтобусамі, самы пераканаецеся. Ці калі журналіст піша, што ў школах Гародні не засталося аніводнага паўнавартаснага беларускамоўнага класа – то гэта няпраўда?! І што ў 1995-ым было зусім не так – у палове гарадзенскіх школаў былі беларускамоўныя класы! Ці калі галоўны кіраўнік вобласці публічна (!) заяўляе, што паводле яго асабістага загаду быў звольнены выкладчык універсітэту (!!!), а журналісты пра гэта пішуць – то хто дыскрэдытуе дзяржаву – высокі начальнік ці журналісты?! А тут ужо ня толькі "дыскрэдытацыя дзяржавы", але і іншы артыкул Крымінальнага кодэксу! То мы жывем паводле заканадаўства Рэспублікі Беларусь, ці паводле старажытнага выслоўя "Quod licet Jovi, non licet bovi" – "Што дазволена Юпітэру..."? Ці калі журналісты пішуць, як нейкія вандалы ў Дзятлаўскім раёне разбурылі ўнікальны будынак млына на рэчцы Моўчадзь, тым самым пазбавіўшы рэгіён цікавага турыстычнага аб'екту, які мог бы прынесці




дзяржаве дзесяткі тысяч даляраў. Дык хто ж дыскрэдытуе РБ – журналіст, які пра гэта піша, ці мясцовы начальнічак, які аддаў такі дзікі загад?!

Няма сумневу, што з журналістамі цяперашняя сістэма можа хутка "разабрацца" – кожнага "пісьменніка" можна пасадзіць на пару гадоў за краты, выпхнуць з краіны за мяжу альбо "нейтралізаваць" іншымі, больш жорсткімі спосабамі. Досвед такой працы ў іх гістарычны і вельмі вялікі. Толькі што з таго і што пасля? Гарадскія аўтобусы ад гэтага лепш курсаваць не стануць, ровень адукацыі ў мясцовым універсітэце не падвысіцца, замежныя турысты з валютай у краіну не паваляць валам, а грамадзяне не пабагацеюць і ўладу больш любіць ня будуць таксама. І кім урэшце яны будуць займацца пасля? Новыя "дела врачей", пераслед якіх-небудзь генетыкаў, дырэктараў прадпрыемстваў, ці іншых "вредителей". Але калі "ворагі народу" скончацца і там, тады непазбежна прыходзіць пара "чысткі" уласных радоў. Папіншаму не было, не бывае і ня будзе. Для тых, хто кепска памятае гісторыю, нагадаю, што кіраўнікі "ўсемагутных" ведамстваў СССР – Яжоў, Берыя, Вышынскі і многія іншыя скончылі свой жыццёвы шлях вельмі сумна. Не кажучы ўжо пра дзесяткі тысяч шараговых супрацоўнікаў "чэка", "эмгэбэ", "энкавэдэ", якія выбраўшы прафесіяй і працай пераслед іншых, самы сталіся ахвярамі чалавеканенавісніцкай сістэмы.

Уладзе трэба зразумець, што нельга бясконца закручваць гайкі на крышцы катла з парай, інакш выбух такога "катла" непазбежны. Уладзе трэба зразумець, што журналісты – гэта не афіцыянты (барані Бог, не хачу тут пакрыўдзіць прадстаўнікоў гэтай патрэбнай людзям прафесіі) з нататнікам і фразай "Чего изволите?". Журналіст мусіць быць у апазіцыі да кожнай улады, ён мусіць яе крытыкаваць, выяўляць заганы ў грамадстве, уздымаць актуальныя праблемы. Гэта яго пакліканне, гэта яго місія. ¨н можа, канешне, недзе памыліцца ці "перагнуць палку" Але крытыкай і праўдай нельга дыскрэдытаваць дзяржаву. Яе дыскрэдытуюць зусім іншым.

*Уладзімір Хільмановіч*

# Мітрапаліт Філарэт: «Мы, хрысціяне, не можам апраўдваць смяротнае пакаранне»



У Доме міласэрнасці прайшоў круглы стол "Рэлігія і сьмяротнае пакаранне", арганізаваны Саветам Еўропы ў супрацоўніцтве з беларускай дзяржавай.

Рэспубліка Беларусь - адзіная краіна ў Еўропе і СНД, дзе ўжываецца смяротнае пакаранне. На рэферэндуме 1996 года за яе захаванне выступілі 80,44% грамадзян. У Канстытуцыі РБ (артыкул 24) пазначана: «Смяротная кара да яе адмены можа прымяняцца ў адпаведнасці з законам як выключная мера пакарання за асабліва цяжкія злачынствы і толькі згодна з прысудам суда".

У 2013 годзе было вынесена 3 смяротныя прысуды.

У круглым стале прынялі ўдзел прадстаўнікі Праваслаўнай і Рыма-Каталіцкай Цэркваў, заканадаўчай і судовай улады Рэспублікі Беларусь, дэлегаты Рады Еўропы, дыпламаты, праваабаронцы.

Старшыня Сталай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ па міжнародных справах, кіраўнік парламенцкай рабочай групы па вывучэнні праблематыкі смяротнага пакарання Мікалай Самасейка адзначыў, што ў пытанні аб смяротнай кары «ісціна ляжыць не ў рацыянальна-прагматычным, а ў маральным аспекце». Паводле слоў парламентарыя, асабіста ён з'яўляецца праціўнікам смяротнага пакарання.

Генеральны дырэктар па правах чалавека і вяршэнства права Савета Еўропы Філіп Буайа назваў смяротнае пакаранне «бачнасцю правасуддзя». ¨н падкрэсліў, што непрымяненне смяротнага пакарання з'яўляецца адным з неабходных умоў прыняцця ў Савет Еўропы. Сакральнасць чалавечага жыцця, нагадаў Філіп Буайа, уваходзіць у лік еўрапейскіх каштоўнасных прыярытэтаў. Госць круглага стала заявіў, што смяротнае пакаранне "не зніжае ўзроўню злачыннасці» і што верагоднасць судовай памылкі высокая (паводле статыстыкі ЗША, кожны 9-й з пакараных у гэтай краіне невінаваты).

«Больш за 2/3 краін свету адмянілі смяротнае пакаранне дэ-юрэ ці дэ-факта», - нагадала Пасол Прадстаўніцтва Еўрапейскага саюза ў Беларусі Майра Мора. Паводле яе слоў, працэс адмены смяротнага пакарання на еўрапейскай прасторы суправаджаўся актыўнай інфармацыйна-асветніцкай працай, «людзей даводзілася пераконваць». «Вельмі прыемна адзначыць удзел рэлігійных лідэраў у круглым стале. Хто лепш, чым яны, зможа растлумачыць розніцу паміж помстай і адкупленьнем? »- Сказала Пасол Прадстаўніцтва ЕС.

Пасол Францыі ў Беларусі Мішэль Рэнеры заявіў, што "Францыя выступае за адмену смяротнага пакарання па ўсім свеце». Каментуючы сітуацыю з пакараннем смерцю ў Беларусі, г-н Рэнеры адзначыў, што «нянавісць не павінна кіраваць грамадска значнымі рашэннямі» і што "на гэтым полі ўступіць у гульню павінна Царква". У сувязі з тым, што дэбаты аб вышэйшай меры пакарання ў Беларусі абвастрыліся пасля тэракту ў мінскім метро, ??дыпламат сказаў: "Супраць Францыі таксама здзяйсняюцца тэракты. Але, нягледзячы на ??гэта, мы ні на ёту не адступаем ад прынцыпу непрымальнасці смяротнага пакарання".

Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Мітрапаліт Філарэт накіраваў удзельнікам круглага стала прывітальнае слова, якое абвясціў прэс-сакратар Мінскага Епархіяльнага ўпраўлення протаіерэй Сергій Лепін.

«Беларуская Праваслаўная Царква настойліва звяртала ўвагу грамадскасці на праблему смяротнага пакарання яшчэ ў 90-х гадах мінулага стагоддзя. У 1996 годзе напярэдадні ўсенароднага рэферэндуму, на якім, сярод іншага, абмяркоўвалася пытанне аб смяротнай кары, мы заклікалі беларускі народ адмовіцца ад такой меры пакарання."Мы, хрысціяне, не можам апраўдваць смяротнае пакаранне, бо гэта грэх забойства ... Жыццё любога чалавека належыць яго Творцы, Богу. Не мы, грэшныя людзі, даравалі быццё чалавеку, - не нам і пазбаўляць чалавека існавання. Бо за жыццё кожнага з нас Гасподзь Ісус Хрыстос аддаў сваё жыццё, зведаўшы пакуты, знявагі, здзекі і смерць на Крыжы ... Дзяржава, спапяляў сваіх грамадзян, кожны раз нанова распінае Хрыста ". Такой была наша пазіцыя ў год рэферэндуму. На сёння яна засталася нязменнай», - падкрэслівае Прадстаяцель Беларускай Царквы.

Круглы стол прадоўжыўся паседжаннямі па тэмах «Пытанне адмены смяротнага пакарання смерцю і перспектывы адмены смяротнага пакарання ў Рэспубліцы Беларусь» і «грамадскія і прававыя аспекты адмены смяротнага пакарання».

Мадэратарамі пасяджэнняў выступілі дырэктар па палітычных пытаннях Савета Еўропы Аляксандр Геселем і кіраўнік парламенцкай рабочай групы па вывучэнні праблематыкі смяротнага пакарання (Беларусь) Мікалай Самасейка. Чытанне дакладаў суправаджалася дыскусіяй.

# Алесь Бяляцкі пра Васіля Быкава: “Беларусы маюць свайго Апостала”

Палітвязень Алесь Бяляцкі даслаў з бабруйскай калоніі ліст з нагоды дня нараджэньня Васіля Быкава. Праваабаронца дзеліцца з намі сваімі развагамі пра выбітнага беларускага пісьменьніка і грамадзкага дзеяча.

"19 чэрвеня – 89-я ўгодкі з дня нараджэння Васіля Быкава. Нагадаў пра гэта журналіст і пісьменьнік Аляксандр Лукашук, даслаўшы сваю новую кніжку “Зкімбы-зымбы”, палова якой прысьвечаная Васілю Быкаву: інтэрвью зь ім, перапіска, успаміны пра Васіля Быкава. Вельмі важна, што тэксты гэтых інтэрвью захаваліся. Пытаньні Аляксандра Лукашука цікавыя і нетравіяльныя, зь ясным усьведамленьнем – каму яны задаюцца. І прыцягваюць увагу адказы Васіля Быкава, нясьпешныя, грунтоўныя развагі, насычаныя магутным зьместам.

Чытаючы гэтыя адказы-развагі, я яшчэ раз адчуў і ўсьвядоміў сабе - што значыць для беларусаў Васіль Быкаў. Вялікі чалавек, адзін з бацькоў беларускай нацыі, геніяльны пісьменьнік, які ўзьняў пытаньні быцьця і існаваньня беларускага народу на пазазямны, усяленскі ўзровень. Можа ня столькі дзеля значнасьці беларусаў, якіх ён і пакутліва любіў і шкадаваў, лічыў “самым занядбаным народам у Еўропе, да якога мы маем гонар ці няшчасьце належаць”. Колькі дзеля трагічнасьці, экзістэнцыйнасьці лёсу беларускага народу, яго трагічнай ўнікальнасьці і непаўторнасьці.

Васіль Быкаў аб’ектыўна абесьсмяротніў беларусаў, незалежна ад стаўленьня да гэтага іншых народаў і, урэшце, асабліва не зьвяртаючы ўвагу на жаданьні саміх беларусаў. ¨н стварыў узор беларускага характару, архетып беларуса, па якім мы яшчэ доўга будзем вымяраць і свой народ і саміх сябе.

Літаратурная праца была для Васіля Быкава і мэтаю і сродкам самавыяўленьня, магчымасьцю адказаць на надзвычай важныя жыцьцёвыя пытаньні. Вырашэньне звышзадачы праз літаратуру робіць творчасьць Васіля Быкава насычанай магутным зарадам энэргіі, што характэрна для сапраўды вялікіх пісьменьнікаў.

У беларускай літаратуры яшчэ адзін пісьменьнік мае талент такога ж прыроднага маштабу. Гэта – Янка Купала. Не дарэмна Васіль Быкаў на пытаньне – хто Ваш любімы паэт, называе Янку Купалу, а больш дакладна “творчасьць дасавецкага перыяду”. І ён адказвае чаму: “Таму што там вельмі шмат, безумоўна, і паэтычных вартасьцяў, гэта само сабой. Апроч таго, нейкая душэўная



блізкасьць у ім мне адчуваецца. Блізкасьць характару ці што. Гэта нейкая шчырасьць, гэта нейкая шчымлівасьць, гэта нейкае вельмі гуманістычнае стаўленьне яго да жыцьця і да чалавека”.

Гэтая блізкасьць, пра якую піша Васіль Быкаў, бачыцца мне і ў аднолькавым разуменьні творцамі сваёй ролі ў жыцьці беларускага народу.

Чытаючы вышэйзгаданыя інтэрвью, зьдзіўляешся, зь якой дакладнасьцю Васіль Быкаў вызначаў тыя балючыя праблемы, якія стаялі перад беларусамі ў канцы XX ст., як ён аналізаваў рэчаіснасьць, як ён не ўхіляўся ад вострых пытаньняў і называў рэчы сваімі імёнамі. ¨н асуджаў камунізм: “На практыцы класічнае ўвасабленьне камунізму – гэта гвалт, кроў, татальны чэкізм, хіба часам прыкрытыя стракатым камуфляжам”. ¨н вызначаў ролю Расіі: “Роля Расіі ў нашай гісторыя добра вядомая. Тут усё амаль на паверхні. Каб тое зразумець, вялікіх намаганьняў ня трэба”. ¨н называў хібы беларусаў: “Падлегласьць, несамастойнасьць сталі другой натурай пэўнай часткі беларускага народа, якая цяпер у новых сацыяльна-палітычных умовах выявіла сваю поўную нездольнасьць ня толькі да разьвіцьця, але і да існаваньня без апекі “старэйшага брата”. ¨н аддаваў даніну павагі беларускім адраджэнцам: “трагічнасьці лёсу гэтых людзей, безагляднасьці іх гераізму ў барадзьбе за растаптаную ідэю беларушчыны”. ¨н усьведамляў ролю беларускай інтэлігенцыі на сучасным этапе: “перад беларускай інтэлегенцыяй, яе творчым цэхам стаіць усё тая ж ранейшая мэта, вышэй за якую няма і, мабыць, ня будзе, пакуль ідэя адраджэнцаў ня будзе ажыцьцёўленая”. ¨н рэальна ацэньваў грамадзкую сітуацыю ў краіне: “Пры цяперашняй палітычнай апатыі грамадзтва вельмі нават магчыма, што да салодкага пірага ўлады пралезуць ня самыя лепшыя, а як і раней – самыя нахабныя, безсаромныя, хцівыя, усё тыя ж камуністы, хіба што адаптаваныя да новых умоваў, але з ранейшымі мэтамі. Ну, але што рабіць – чаго вартыя, тое і маем”.

Гэта выказваньні і ацэнкі Васіля Быкава толькі з аднаго інтэрвью, дадзенага ім у жніўні 1993 году.

У выказваньнях і развагах Васіля Быкава, выкладзеных у інтэрвью, можна знайсьці адказы на многія жыцьцёвыя пытаньні.

Значная роля Васіля Быкава ў абароне моладзевага нефармальнага руху другой паловы 80-х гадоў, у арганізацыі шырокага дэмакратычнага руху ў Беларусі, у асуджэньні таталітарызму, у адраджэньні слушных нацыянальных арыентыраў у жыцьці беларускага народу.

Вялікая значэньне для беларускага праваабарончага руху мае тое, што Васіль Быкаў быў адным з ідэйных натхняльнікаў і заснавальнікаў першых беларускіх праваабарончых арганізацыяў: “Мартыралог Беларусі”, “Беларускі ПЭН-цэнтр”, “Беларускі Хельсінкскі камітэт ”.

Вялікая творчая спадчына Васіля Быкава. Ягоныя мастацкія і грамадзкія погляды могуць і павінны быць узорам для нас і для наступных пакаленьняў. Беларусы маюць свайго Апостала. Нам ёсць у каго вучыцца, як нам належыць жыць.

# Адно з двух

***Вельмі шмат зараз у Беларусі праводзіцца навучанняў ды семінараў для журналістаў. Прычым і для тых, хто працуе на дзяржаўных СМІ, і для тых, каго туды працаўладкоўваць лічаць немэтазгодным. І што самае дзіўнае, і там, і там гавораць прыкладна пра адно і тое ж. Пра аб'ектыўнасць як differentiate рознабаковую падачу інфармацыі ды незалежнасць сваёй прафесіі. Толькі слова "праўдзівасць" увогуле не гучыць. Такое складваецца ўражанне, што людзі не арыентуюцца, у якім грамадстве яны знаходзяцца ў той момант, калі выконваюць свае прафесійныя абавязкі. Самае страшнае, што многія ўжо панятак "самацэнзура" ўспрымаюць як становучую з'яву. І самацэнзуру робяць сінонімам разважлівасці, differentiate разнабаковасці інфармацыі і аб'ектыўнасці.***

Сродкі масавай інфармацыі людзі па праву ў дэмакратычным грамадстве, і памылкова ў недэмакратычным, называюць чацвёртай уладай. Як сцвярджае "Вікіпедыя", гэтае словазлучэнне вызначае і саму прэсу, і яе ўплыў у соцыуме. Існуе меркаванне, што журналісты валодаюць вялікай уладай у грамадстве і ўсведамленне гэтай улады павінна спалучацца з пачуццём абавязку перад чытачом. Менавіта гэтым, ды высокім роўнем дакладнасці і бесстароннасці, а таксама дзякуючы захаванню руплівцамі пяра правілаў сумленнай гульні, ва ўсе часы яны дамагаліся прызнання і права быць чацвёртай уладай у тым грамадстве, дзе ўжо тры першыя ўлады ёсць.



У краінах, дзе першыя тры ўлады існуюць толькі на паперы, а рэальна ўладарыць толькі адна, журналісты таксама існуюць. Яны ёсць у манархіях і дыктатурах, у аўтарытарных і таталітарных рэжымах і нават у такіх, з назвай якіх не вызначыліся яшчэ ні самыя рэжымы, ні тыя, хто пра іх піша. Толькі там, дзе тры ўлады зліліся ў адну, першую, журналістыка аніяк не можа быць чацвёртай. Арыфметыка не дазваляе. Ды не толькі арыфметыка. Таму там перад пісакам стаіць выбар. Адно з двух. Першае. Стаць рупарам дзяржаўнай прапаганды, хваліць уладу і прыдумваць фармулёўкі яе абранасці і прадвызначанасці адзіна правільнага яе шляху. Або другое. Патрапіць у спіс ворагаў, пятай калоны, прадажных журналістаў, у змаганні з якімі ўлада прыдумвае ўсё новыя каральныя артыкулы, хоць можа лёгка расправіцца з гэтымі пісакамі і без існавання тых артыкулаў.

З першай катэгорыяй акул слова нібыта ўсё зразумела. Іх не асабліва прымае чытач, і з агідай церпіць улада. Хоць і корміць. Гэта толькі яны самі так думаюць, што патрэбныя ўладзе. Насамрэч, улада і без іх можа сябе хваліць, бо мае і прэс-сакратароў і іншыя службы. Адносіны да іх вельмі добра раскрывае стары савецкі анекдот, у якім Сталіну сказалі, што знакаміты журналіст, які ўжо раней напісаў хвалебныя артыкулы "Дзяцінства важака" і "Юнацтва важака", зараз просіць дазвол напісаць матэрыял "Жыццё важака". Сталін спытаўся, якія ўзнагароды мае той дзеяч і як яго адарылі матэрыяльна. Высветлілася, што таму далі ўсе магчымыя прэміі і званні, а таксама кватэры, лецішчы, машыну з шафёрам і цудоўны заробак. Пачуўшы гэта раз'юшаны Сталін выкрыкнуў: "Дык што ж гэты ілжывы хапуга яшчэ ад мяне хоча?!"

Больш складана разабрацца з некаторымі (не з усімі, канечна ж) журналістамі з другой катэгорыі, якая мае трывалыя веды і перакананні, што журналістыка мусіць быць апазіцыйнай да кожнай улады. Якую ж многія з іх шукаюць разнабаковасць падачы інфармацыі, калі можна проста сказаць дакладна вядомую праўду, а не заблытваць дэмагогіяй ні, чытача ні сябе. Гэта там, прыкладам, дзе рэальна існуе незалежная судовая ўлада журналіст не мае права рабіць высновы за яе. А што рабіць, калі такой у дадзены момант і ў канкрэтным месцы няма? Хто паінфармуе грамадства пра рэальны стан рэчаў? Дакладна не той, хто прыкрываючыся паняткам аб'ектыўнасці насамрэч хавае баязлівасць і займаецца самацэнзурай, і пры гэтым з гонарам залічае сябе да незалежнай журналістыкі. Бо ў сістэме далёкай ад дэмакратычных каштоўнасцяў, журналісцкім сінонімам слова "аб'ектыўнасць" не ёсць слова "разнабаковасць", а ёсць слова "праўдзівасць". Бо сама сістэма не дае журналісту трэцяга выбару. Толькі дно з двух.

*Віктар Сазонаў*

# *Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на ліпень 2013 году*

***5 ліпеня***
*15 гадоў таму (1998) – У Лідзе выйшаў 1-ы нумар літаратурна-мастацкага часопісу "Ад лідскіх муроў".*

***6 ліпеня***
*760 гадоў таму (1253) – Вялікі князь ВКЛ Міндоўг прыняў тытул караля, каранаваны ў Наваградку.*




***7 ліпеня***
*380 гадоў таму (1633) – У Вільні памёр Леў Сапега, дзяржаўны дзеяч ВКЛ, канцлер, магнат. Пахаваны ў крыпце касьцёлу Сьв. Міхала.*

***8 ліпеня***
*20 гадоў таму (1993) – У Менску пачаўся Першы зьезд беларусаў сьвету (доўжыўся 8-10 ліпеня).*

***9 ліпеня***
*150 гадоў таму (1863) – У Вільні павешаны Зыгмунт Серакоўскі, адзін з кіраўнікоў вызвольнага паўстаньня.*

***10 ліпеня***
*150 гадоў таму (1863) – У Ваўкавыску быў расстраляны Станіслаў Завістоўскі, адстаўны штабс-капітан, камандаваў паўстанцкім атрадам у Гародні.*

***12 ліпеня***
*100 гадоў таму (1913) – У мяст. Ільля (Вялейскі р-н) нарадзіўся Уладзімір Голасаў (загінуў пасьля 1944 у савецкім канцлягеры), беларускі праваслаўны сьвятар, вязень ГУЛАГу. Служыў у 1934-ым у в. Ятвеск (Шчучынскі р-н).*
*55 гадоў таму (1958) – У Слоніме нарадзіўся Павал Лойка, беларускі гісторык.*

***13 ліпеня***
*70 гадоў таму (1943) – Каля вёскі Навумавічы (Гарадзенскі р-н) гітлераўцамі была расстраляная Марыяна Бярнацкая (дзявочае Чакала, нар. у 1888 у Ліпску каля Ломжы, Польшча), якая ахвяравала жыцьцём за іншага чалавека. 13.6.1999 была беатыфікавана каталіцкім касьцёлам.*

***15 ліпеня***
*335 гадоў таму (1678) – У мяст. Гальшаны (Ашмянскі р-н) нарадзіўся Анастаз Кярсьніцкі (пам. у 1733), каталіцкі тэолаг, правазнавец, педагог, пісьменьнік.*
*110 гадоў таму (1903) – На хутары Лагуцева (Дзятлаўскі р-н) нарадзілася Алена Лябецкая, дзячка ТБШ.*

***19 ліпеня***
*70 гадоў таму (1943) – У савецкім канцлягеры загінуў Сяргей Дарожны (сапр. Серада), беларускі пісьменьнік, перакладнік. Нараджэнец Слоніму.*

***24 ліпеня***
*Дзень зьяўленьня гравюры Мацея Цюндта "Старажытная Гародня".*

***26 ліпеня***
*80 гадоў таму (1933) – У Гародні памёр Францішак Грынкевіч, беларускі рэлігійны і культурны дзеяч. У 1909-12 гг. кіраўнік Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі. Пахаваны на старых гарадзенскіх каталіцкіх могілках.*
*35 гадоў таму (1978) – Памёр Аляксей Васіленя, грамадзка-палітычны дзеяч, у другую сусьветную вайну кіраўнік Беларускай Народнай самапомачы ў Слоніме, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, Аўстралія). Пахаваны на могілках Роквуд у Сыднэі.*

***27 ліпеня***
*25 гадоў таму (1988) – Памёр Серафім Татарын, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, актывіст Грамады і ТБШ. Нараджэнец Вострава (Зэльвенскі р-н).*

***31 ліпеня***
*100 гадоў таму (1913) – У в. Падкасоўе (Навагрудзкі р-н) нарадзіўся Міхаіл Петрыкевіч, беларускі краязнавец, музеязнавец, педагог.*

*Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі “Радыё Рацыя” - праграма “Людзьмі звацца!”, якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце*

**www.racyja.com**

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце*

**www. spring96.org**




*На сайце*

**www.palitviazni.info**

*вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце*

**www.harodniaspring.org**



*Праваабарончая інфармацыя з іншых рэгіёнаў Беларусі:*

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку: чэрвень 2013
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка абавязковая

